# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 6 (1500) ГОД XXX БЕЛАСТОК 10 ЛЮТАГА 1985 г. ЦАНА 8 зл.



Адкрылася заслона, і на сцэне ў беларускіх народных касцюмах „Васілёчкі" пачынаюць юбілейны канцэрт.

## МАСТАЦКАМУ БЕЛАРУСКАМУ КАЛЕКТЫВУ „ВАСІЛЁЧКІ" — БЕЛЬСК ПАДЛЯШСКІ.

Прэзідыум Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы з нагоды дваццацігадовага юбілею слаўнага мастацкага калектыву „Васілёчкі" ад шчырага сэрца віншуе ўсіх яго членаў на чале з інспіратарам і дырыжорам — Сяргеем Лукашуком.

Ваш дваццацігадовы шлях гэта шлях вернага служэння беларускай культуры, яе папулярызацыі як у беларускім, так і ў польскім асяроддзях.

Хто так, як Вы, служыць роднай песні, той служыць свайму народу, той заслугоўвае на ўдзячнасць сённяшняга і будучых пакаленняў беларусаў. „Васілёчкі" пакінулі свой мастацкі след у культурным жыцці ўсёй усходняй Беласточчыны, уносячы такім чынам трывалы ўклад у культурнае жыццё ўсёй краіны.

Беларускае грамадска-культурнае таварыства выяўляе глыбокую ўдзячнасць калектыву за тое ўсё, што было ім дагэтуль зроблена, і верыць, што таксама ў будучым „Васілёчкі" ўквецяць беларускую ніву дарам сваіх сэрц — роднай песняй.

**Прэзідыум ГП БГКТ**

## „ВАСІЛЁЧКІ"—КВЕТКІ НАШЫ

Васілёчкі — палявыя кветкі, якімі зямля ўпрыгожваецца сама.

„Васілёчкі" — беларускі харавы калектыў з Бельска. Ён, быццам кветкамі, упрыгожвае наша жыццё сваімі песнямі, робіць яго лепшым, весялейшым, пякнейшым. Ужо 20 год „Васілёчкі" славяць беларускую песню, мелодыю, беларускае слова, прывіваюць любоў да беларускасці на малых і вялікіх сцэнах, на вёсках і ў гарадах, на Беласточчыне і па-за яе межамі, на фэстах і фестывалях, на рознага роду мерапрыемствах.

Людзі „Васілёчкаў" бяруць заўсёды ўдзел у аглядах і конкурсах БГКТ і ТППР. Як правіла, здабываюць добрыя месцы, атрымоўваюць падзякі і ўзнагароды. Высокі мастацкі ўзровень калектыву беспасрэдна звязаны з асобай іх дырыжора Сяргея Лукашука, які выконвае адначасова функцыю дырэктара Бельскага дома культуры і які ўжо 15 год працуе з „Васілёчкамі".

Калектыў у першым дзесяцігоддзі сваёй дзейнасці не меў сталага месца на рэпетыцыі. Змяняліся памяшканні. Рэпетыраваліся і ў былым нязручным памяшканні БГКТ, і ў святліцы МО, і ў канферэнцыйнай зале ратушы, і на калідоры, а пазней у адным з класаў беларускага ліцэя.

Ад верасня 1974 года, калі адрамантаваны быў Дом культуры, калектыў перайшоў туды. Дзякуючы дапамозе гарадскіх улад Бельска, актыву БГКТ і патранату ГП БГКТ, „Васілёчкі" паспяхова разгортваюць сваю дзейнасць на ніве беларускай культуры.

„Васілёчкі" — духоўны скарб Беларускага таварыства, духоўны скарб горада Бельска. Сваёю заўзятай, цяжкой працай падчас падрыхтоўкі, а пасля сваімі выступленнямі „Васілёчкі" заваявалі прызнанне простых людзей, розных арганізацый і ўстаноў, а таксама партыйных і адміністрацыйных улад. Гэта адчувалася падчас юбілейнай урачыстасці, якая адбылася ў Бельскім доме культуры 18 студзеня г.г.

Адкрылася заслона, і на сцэне ў беларускіх народных касцюмах „Васілёчкі" пачынаюць кароценькі юбілейны канцэрт сваёй традыцыйнай песняй „Расцвіталі васілёчкі".

Перапоўненая зала кожную выкананую песню ўзнагароджвала авацыяй, у якой выражалася спадоба, падзяка і любоў.

Затым вядучы ўрачыстасць, Сцяпан Трафімюк, выказвае пачуцці мясцовай грамадскасці: „...Свята калектыву „Васілёчкі" з'яўляецца нашым супольным святам... Кантакт з мастацтвам „Васілёчкаў" дае нам пачуццё сувязі з мінулым, з гісторыяй нашых бацькоў і дзядоў, а таксама з сучаснасцю і будучыняй. Ва ўмовах нашага горада дзейнасць калектыву з'яўляецца парастам, яднаючым людзей, нягледзячы на іх нацыянальную прыналежнасць, якія працуюць для дабра Бельска, ваяводства і нашага супольнага дома — Польскай Народнай Рэспублікі".

Сцяпан Трафімюк сардэчна прывітаў шматлікіх прадстаўнікоў улад, арганізацый і, асаблі-

(Працяг на стар. 7)

**НА МЯЖЫ**

## АБ КРЫТЫКАХ

Дзе ёсць пісьменнікі, там ёсць і крытыкі. Хто каму болей заўдзячвае: пісьменнікі крытыкам ці крытыкі пісьменнікам — справа дыскусійная. У гісторыі літаратур знаходзім нямала выдатных крытыкаў, якія асмеліліся падняць руку на, здавалася б, святых кароў — аўтараў, якія на працягу цэлых эпох лічыліся нетыкальным гонарам нацыі. Прыкладам можа быць польскі крытык Бой-Жэленскі, які сказаў нямала адмоўнага аб Міцкевічу.

Тут аднак хачу я расказаць аб часах намнога ранейшых. Можа, не ўсе ведаюць, што страшэнны дыктатар, сатрап, тэрарыст і падпальшчык роднага Рыму кесар Нерон займаўся такім сентыментальным занятакам, як пісанне вершаў. Аднак найвыдатнейшы крытык Рыму, не баючыся ўсемагутнай пазіцыі Нерона, даказваў, што яго вершы ў мастацкім сэнсе нікуды не гадзяцца. Разгневаны Нерон, доўга не чакаючы, паслаў крытыка на некалькі гадоў на цяжкія работы ў каменяломні. У той час, калі крытык праліваў пот, разбіваючы валуны і скалы, Нерон у далейшым, слухаючы лагодныя мелодыі, якія сплывалі з ліраў абслугоўваючых яго дзяўчат, пісаў вершы. Калі крытык адбыў сваю некалькігадовую кару і выйшаў на свабоду, Нерон запрасіў яго ў свой палац, пачаставаў шыкарнай ежай і пітвом і пачаў чытаць свае вершы. Вялікім было здзіўленне магутнага кесара, калі ён заўважыў, што крытык устаў і накіраваўся да дзвярэй.

— Ты куды? — крыкнуў Нерон.

— У каменяломні, — спакойна адказаў крытык. І толькі яго і бачылі ў кесараўскім палацы.

Мабыць, працуючы ў каменяломнях, крытык нямала думаў аб паэзіі і Нероне. Мабыць, гэтым тлумачыцца яго драматычны зварот да манарха. У гэтым звароце крытык канклюдаваў: „Рэж, забівай людзей, толькі не пішы вершаў!"

Калі з пэўным філасофскім спакоем глянуць і на сваю творчасць (гавару аб усіх пісьменніках, не выключаючы і сябе), дык, можа, было б добра, калі б кожны з іх меў каля сябе такога непадкупнага крытыка, як той з Рыму... Аднак любому крытыку вельмі цяжка збіць з абранага курсу паэта з неронаўскай ухваткай. Я калісьці прысутнічаў на аўтарскім вечары нейкага маладога нерона ў Лодзі. Чытаў ён паўгадзіны свае вершы. Я ж, нягледзячы на сваю філалагічную адукацыю, у гэтых вершах не зразумеў і не вылавіў нават аднаго лагічнага сказа. Можна было ў іх пераставіць любое слова і любы радок на іншае месца і было б таксама безнадзейна. Калі паэт, выразна задаволены сабой, скончыў, устаў адзін са слухачоў і спытаў, чаму паэт адштурхнуўся поўнасцю ад усякай логікі. На гэта паэт горда адказаў, што ён не будзе складанай філасофскай прабламатыкі ўпіхваць у штучныя і прымітыўныя шаб-

(Працяг на стар. 5)

**КАМЕНТАРЫЙ**

## ЗАПРАШЭННЕ НА ПРАЦУ

Гаспадарчая рэформа дала прадпрыемствам поўную і неабмежаваную магчымасць самастойна вырашаць усе праблемы па арганізацыі працы і па велічыні рабочай сілы. Эканамічная стымуляроўка наладжана так, каб кіраўніцтва прадпрыемстваў і ўстаноў заахвочваць да самага крайняга і неабходнага абмежавання колькасці працаўнікоў на прадпрыемствах.

І што аказалася? Найбольш надакучлівым недахопам амаль на ўсіх прадукцыйных прамысловых прадпрыемствах і ў многіх установах з'яўляецца недахоп рабочай сілы. У Беластоцкім ваяводстве пад канец мінулага года (стан на дзень 25 снежня 1984 г.) на прадпрыемствах і ва ўстановах знаходзілася **2885 свабодных месц працы,** а ў той жа час зарэгістравана было 204 асобы, якія шукалі сабе працы. Статыстычна беручы, па 14 прапаноў на аднаго патрабуючага.

Найбольш свабодных месц працы, вядома, прапануюць беластоцкія прадпрыемствы. Пад канец снежня мінулага года маглі яны прыняць на работу 1795 мужчын і 673 жанчыны. На жаль, без працы ў амаль трохсоттысячным горадзе заставалася тады 77 мужчын (23 прапановы на кожнага) і 37 жанчын (18 магчымасцей для кожнага).

**Ніна Яблонская,** шэф аддзела працы гарадскога ўпраўлення ў Беластоку, адзначае, што на працягу мінулага года рынак працы характарызаваўся асабліва вялікім попытам: ад 2,5 да 3 тысяч свабодных месц працы, калі ў той жа час колькасць „беспрацоўных", зарэгістраваных у аддзеле, не перавышала ніколі 150 чалавек.

Эканамістаў гэтакая з'ява не вельмі цешыць. Яна даказвае, што кіраўнікі прадпрыемстваў абмяжоўваюцца да найбольш даступнай і найлатвейшай стымуляроўкі вытворчасці, не лічачы яе коштаў. Калі расце колькасць працуючых на нейкім прадпрыемстве, тады аўтаматычна павялічваецца сабекошт кожнай адзінкі фінальнага тавару, значыць, пары ботаў, метра тканіны, метра жылой плошчы, халадзільніка, плуга, трактара, кілаграма каўбас, масла... і ўсяго іншага. Услед за гэтым растуць рознічныя (дэталічныя) цэны тых жа тавараў. Павышаныя цэны адмоўна ўздзейнічаюць на бытавое становішча працуючых. Яны зусім слушна патрабуюць павышэння зарплаты...

І такім чынам мы пападаем на **карусель інфляцыі,** якая безупынку ўзвінчваецца ўгару, а спыніць яе вельмі цяжка. Дзейнічае тут даўно ўжо вядомы закон таварнай эканомікі, які абысці нікому не ўдаецца.

Не знаходзячы ў гарадах свабодных людзей для працы, прадпрыемствы, вядома, сваімі шматабяцаючымі аб'явамі прыманьваюць найбольш працаздольных жыхароў нашых вёсак. Дзяржаўныя, законныя палажэнні, якія зараз рэгулююць у гэтай галіне суадносіны прадпрыемства — грамадзянін, у апошні час справу прадпрыемствам шмат аблегчылі. Усе кадравікі ўжо ведаюць, што ад 17 ліпеня 1984 года дзейнічае славуты загад № 35 міністра працы, зарплаты і сацыяльных спраў, на аснове якога, між іншым, і ў межах Беластоцкага ваяводства прадпрыемствы і ўстановы не абавязаны прасіць дазволу мясцовых аддзелаў працы на тое, каб прыняць да сябе любога чалавека. Значыць, той, хто хоча працаваць на нейкім прадпрыемстве, зусім не абавязаны мець накіраванне на гэтае прадпрыемства ад мясцовай адміністрацыі.

— Аддзелы ці рэфераты па справах працы ў адзінках дзяржаўнай адміністрацыі займаюцца зараз выключна рэгістрацыяй свабодных месц працы і толькі ў вельмі абмежаваных размерах могуць накінуць сваю волю самастойным прадпрыемствам, — сцвярджае **Яўстафій Паплінскі** — загадчык аддзела працы ў Ваяводскім упраўленні ў Беластоку. Запытаў я ў яго, што робіць дзяржаўная адміністрацыя, каб спыніць адплыў найбольш жыватворных сіл з вёсак, каб маладыя людзі маглі знаходзіць карысныя і рэнтабельныя занятак на месцы, у сваіх родных старонках.

З паясненняў Я. Паплінскага

(Працяг на стар. 5)




### У „РАССВЕТ" НА ВОДЫ

Здраўніца пабудавана ў адным з маляўнічых куткоў калгаса „Рассвет", сярод садоў і ліпавых алей. Адзін з паверхаў вялікага будынка адведзены пад лячэбна-працэдурныя кабінеты, ванны.

Па аснашчанасці медыцынскім абсталяваннем цэнтр здароўя не ўступае гарадскім паліклінікам. Ёсць кабінеты дыягностыкі, фізіятэрапеўтычны, іглатэрапіі і іншыя. Плануецца шырока практыкаваць цеплаводалячэнне. Прабураны дзве крыніцы мінеральных вод. У адной — пітная, у другой — аналаг марской вады для ваннаў. Тут будзе праводзіцца і лячэнне лекавымі раслінамі. Большая частка іх ужо вырашчана ва ўласным гадавальніку, дзе культывуецца 15 відаў траў і ягаднікаў, будзе вырошчвацца жэньшэнь.

Для аматараў папарыцца ёсць руская і фінская лазні, плавальны басейн з марской вадой. Будуць таксама свае стаматалагічныя і зубапратэзныя аддзяленні, побач пачата будаўніцтва гразелячэбніцы. Стацыянарна здраўніца дзейнічае з восені да вясны, але прафілактычная і лячэбная работа будзе круглагадовай.

„Рассвет" штогод накіроўвае буйныя сумы на рэалізацыю сацыяльна-культурнай праграмы. Толькі на жыллёвае будаўніцтва калгас выдзяляе да пяцісот тысяч рублёў у год. У цэнтры яго вырас прыгожы жылы пасёлак, узведзены буйны гандлёвы цэнтр, гасцініца. Забудова вёскі працягваецца.

### КАНТАКТЫ ВУЧОНЫХ

Бярэзінскі запаведнік на першым Міжнародным кангрэсе біясферных запаведнікаў прызнаны ўзорным. Да яго ўсё больш пільна прыцягваецца інтарэс міжнароднай навуковай грамадскасці.

Нядаўна ва ўнікальнай запаведнай зоне пабывалі вучоныя Хельсінскага універсітэта. Мэта візіту замежных спецыялістаў — распрацоўка адзіных праграм даследаванняў балотных экасістэм.

З фінскімі вучонымі была праведзена своеасаблівая экскурсія па запаведніку і пойменных балотах уздоўж цячэння ракі Бярэзіны. Дарэчы заўважыць, плошча балотных комплексаў перавышае тут 40 тысяч гектараў.

Госці наведалі Дом экалагічнай асветы, музей прыроды, агледзелі вальеры з дзікімі жывёламі і іншыя славутыя мясціны. Яны далі высокую ацэнку праграме навуковых даследаванняў, прапагандзе аховы прыроды ў запаведніку.

На здымку: Доследы хвароб дзікай жывёлы ў Бярэзінскім запаведніку праводзіць старшы навуковы супрацоўнік Васіль Літвінаў. Фота У. Казлова.



# БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

Ужо было сказана аб выключнай ролі бабкі ў хрысціінным рытуале, аб тым, што выконвала яна ролю свайго роду рэжысёра, а, можа, уласцівей было б сказаць — функцыю „дырыжора“. Функцыя гэта праяўляецца з асаблівай сілай у той фазе ўрачыстасці хрысцін, у якой сабраныя ўспамагаюць нованароджанае дзіця матэрыяльна.

Момант вядучай ролі бабкі ў хрысціннай урачыстасці знайшоў выяўленне ў выказванні жыхара Ляшукоў Андрэя Самоціка:

„Была адна такая ў нашай вёсцы. Усюды было яе поўна. Калі радзіўся мой Мікалай, то я хацеў прывасці бабку з Ляўкова. Але дзе там прывазеш! Збегліся суседкі і пачалі крычаць: „Бары тольку нашу!“ Ну, то што ж было рабіць — узяў. Ой, папаганяла вана мане. Усё ёй не так, а прынясі, а вынясі, а падай, а бажы, а ўцякай з хаты. Думаў я, што будзе лепш, калі ўжэ ўродзіцца, значыцца, дзіця. Але дзе там, ганяла аж да хрысцін. Калі я ўрэшце збунтаваўся, крыкнула: „Відно, хочэш пакачацца ў дрыготках?! То зараз пакачаешса. Я табе такую штуку зраблю, што завішчыш больш, чым твая баба, родзячы“. Ну, то і што зробіш, брацішку. Трэба было маўчаць. Не лёгка было і на самых хрысцінах, бо вана, гэта бабка, значыць, усе жондзіт і жондзіт, як які паліцаймайстэр. Гасцям што? Ваны рагочут, а ты мусіш мучыцца невядома за якія грахі. А вана то з тым ножычкам, што пупавіну абрэзвала, ганяецца, то з кашаю, то яшчэ палеруш ведае з чым. Праўда, было не мала і васалосці, але бады на много больш, чым тае радасці.

Але калі так сегодне падумаю, то ўжэ да яе і ніякае злосці німа. Нават наадварот, каб яе не было, і не было б чаго ўспамінаці. Ужэ лет сорок як яе німа, але нават цяпэр, калі дзе якія хрысціны, то, здаецца, от зараз з хаты і вылезе тая бабка, штось там бармочучы пад носом“.

Выказванне Самоціка досыць верна адлюстроўвае вядучую ролю бабкі ў радзільным і хрысцінным абрадзе.

У многіх вёсках ужо ў пачатку хрысцін бабка звярталася да сабраных, заахвочваючы іх да складання ахвяр „на ножык“. З раёна Супраслі паходзіць цікавая формула звароту — арацыі, з якой бабка звяртаецца да сабраных:

Ой, моцна ступіўся мой ножык старэнькі,
Чым буду адрэзваць я пупавіну
Дзетачкам вашым маленькім?
Кіньце капейку, кіньце яшчэ грошык,
Каб дзеткі былі здаровы і былі харошы.
Ой, мушу я мушу яшчэ доўга жыць
І вам у фартушку дзетачак насіць.

Пасля такога звароту сабраныя кідалі манеты на талерку або разасланую хусцінку. Сабраную суму бабка найчасцей дзяліла напалову, прызнаючы палову грошай дзіцяці, а палову забіраючы сабе.

У часе гэтага рытуалу, сабраныя інтанавалі песню:

Пылом, лістом дарожанька прыпала,
А парадуха па бабулю паслала.
Бывай, бывай, бабуленька, у мяне,
Есць у мяне беседанька для цябе.

Арыгінальны і цікавы варыянт гэтай песні выступаў у вёсцы Церамкі, папулярны, зрэшты, і ў многіх іншых мясцовасцях:

Матуля па садочку хадзіла
І бабулю прасіла:
Бабуля мая міла,
Прыходзь да маго дзіцяці.
Дам табе заплату:
Палатно як белу карту,
І танюсенькe і белюсенькe,
І з бабуляю роўнэ.

**А. Баршчэўскі**

# ПРА ЯГНЯТКА І ЦЯЛЯТКА

**На праваслаўнае свята Раздва (у іншым вымаўленні Руздва) ударылі ў нас былі маразы да 30 градусаў. А ў многіх старых гаспадароў у халодных хлявах радзіліся цяляткі і ягняткі. І вось дзве кароткія карцінкі, якія зусім не належаць да рэдкасці а сведчаць аб пэўнай характэрнай, хоць і занікаючай, рысе беларускага характару, якую можна было б назваць „жыццём у еднасці з навакольным светам“.**

Дзядзьку Максіму за 80 гадоў, а цётцы Ольцы нешта каля гэтага, а вось зямлі сваёй не аддаюць у дзяржаўны фонд, каб атрымліваць за яе рэнту. Не хочуць? Не могуць?

Вельмі цяжка ім працаваць, ды і колькі ж можна? Але радасць, якая — конь, карова, авечкі, куры, поўны двор жывога! Ёсць з кім і для каго жыць.

Адна авечка акацілася на другі дзень Раздва. Двое ягнятак прывяла. Ягняткам у хляве холадна. Замерзнуць гатовы. Цётка з дзядзькам забіраюць іх у хату. У хаце пахне сенам, па якім тупае і якое хрумстае авечка.

— Гадзіна якая, — кажа цётка, — бач, аднаму не дае ссаць цыцку, не прымае. Пяршатка — мусіць таму. Нічога, я яе перавярну і прыдушу, хай малое наесца.

На стале стаіць бутэлечка з соскай. Цётка карміла ягнятка і такім спосабам. А пяршатка тупае нагою і адварочваецца, калі другі сынок (той нялюбы) хоча падлезці да цыцкі. Адзін таўчэ яе грудзі і круціць хвосцікам ад задавальнення, а другога лобам стукае і адварочваецца ад яго задам.

Балючая карціна!

Не вытрымліваю і б'ю кулаком у дурны авечы лоб. Нічога, глядзіць на мяне, вылупіўшы вочы, а сваё робіць. Дурная авечка і ўсё.

Якое шчасце, што цётка Олька любіць няшчаснага баранчыка і накорміць яго.

Вось жа звырадненні пачуццяў і ў звяроў бываюць.

А другі расказ аб цялятку, якое нарадзілася ў другой падбельскай вёсцы, таксама ў свята. Старыя гаспадары прынялі яго і, каб не замерзла, адзелі ў душагрэйкі, а на галоўку завязалі цёплую хустку.

Нельга сумнявацца, што такія людзі разумеюць мову неба і зямлі, мову звяроў і дрэў. Яны і сваё жыццё ўспрымаюць толькі як частку містычнай Цэласці, з якой некалі спалучацца. Таму так цяжка бывае старым гаспадарам парваць іх арганічную сувязь з зямлёй, з жывінай і пры канцы дарогі перайсці ў штучнае і чыста матэрыяльнае русло жыцця.

Добра, што ёсць такія людзі — яны і наша сумленне захоўваюць ад канчатковай пагібелі.

(вл)

## БЕЛАРУСКІЯ ЛЮДЗІ

# ДАМА З КОЦІКАМ

Еўдакія Белаказовіч нарадзілася разам з нараджэннем Дваццатага Стагоддзя ў вялікім сяле, на зямлі, дзе спакон-вякоў век векавалі і векавацьмуць навечна беларускія праваслаўныя людзі, у сям'і вельмі беднай, бо зямлі „мо нават гектара не было“.

Зямля гэтая ў той далёкі час належала да Расійскай Імперыі і называлася „Западным краем“. Сяло ж бабуліна называецца гучна — Відава (цяпер гм. Бельск). Людзі, якія тут радзіліся і паміралі, заўсёды гаварылі на беларускай паўднёва-заходняй гаворцы. Бабуля Яўдоля жыве ў сваім сяле ад нараджэння. Праз свет і яе роднае сяло пракочваліся ўраганы і пажары палілі людскія хаты, ды нішто і ніхто не выкараніў тут жыцця. Цяпер сяло багатае, як ніколі, а ў яснасініх вачах бабулі, якую сустракаю на чыстым панадворку ля хаты з вясёлымі вокнамі, чытаю бурлівую пакорна-непакорную гісторыю беларускага лёсу.

Бабуля Яўдоля (84 гады) — вялікі і важны сведак Гісторыі — асабістай, малой, і агульнай, вялікай. Як чытаем многа з пластоў дрэва, так чытаем з доўгага жыцця бабулі аповесць пад загалоўкам: „Век бабулі Яўдолі“.

Які ж ён, гэты век?

Раздзел першы: Пастушка.

— Першае, што памятаю, то тое, што ўсё пасла ды пасла — кароў, цялят, свінней, авечак. І сонца пякло, і дажджы лілі, і прымаразкі скоўвалі зямлю, а я пасла. Боса — ног не чуеш ад холаду — то, бывала, насцу і так ногі грэю. Бедныя мы былі, і бацькі аддавалі мяне за пастуха.

Раздзел другі: Плач маладухі на сваім вяселлі.

— У 17 гадоў бацькі аддалі мяне за багатага. Немкам быў. Яго бацькі мелі 17 гектараў зямлі. Я яго не любіла, плакала, але мама казала: ідзі, ідзі дзіцятка, хоць галодная не будзеш.

Раздзел трэці: Злая свякруха і няшчасная нявестка.

— Прыйшла я ў чужую хату і пачалося маё гора. Бацькі мужа не давалі есці, бо „ты сюды нічога не прынесла“. Хлеба кусок, не папрасіўшы, не магла



ўзяць, а есці хацелася — маладая была, здаровая, працавала цяжка, я працавітая была. Бывала, пасля іхняга снедання схаплю і з'ем таўканіцу хуценька, хуценька, а маці крычыць, немка падбухторвае. Ваду прынясуць у поле ў жніво — не дасць мне напіцца. Так рабілі багатыя людзі.

Раздзел чацверты: Пекла жанчыны.

— Ён ад нараджэння быў нямы, слухаўся маці. А тая як нагаворыць, нагушкае, то ён скакаў да горла: замнога ясі! У ярай злосці сухар пхаў мне ў рот — еш, не наясіся, усё табе мала. Калечыў мне губы, язык да крыві. Ругаўся.(?) Так, так міленькая, дранае мог сказаць, так то нічога не гаварыў, але дранае выходзіла.

Раздзел пяты: Спроба знайсці шчасце.

— Не, не кінула, бо грэх. Ён любіў пахваліцца мною. Я харошая была, высокая, стройная. Дзяцей у нас не было, бо я не магла мець (?). Я ведаю, ведаю. Я вам як на споведзі. Ніхто не ведаў і ніколі не дазнаўся, толькі нас двое. Харошы хлопец быў, разумны і добры, хоць бедны. Казаў: кінь няволю, неяк будзем жыць. Не, я не кідала, бо ўсе казалі, што грэх.

Раздзел шосты: Прыклады новых сацыяльных працэсаў у вёсцы.

— Брат Юсіп то першы камуніст быў у сяле. Было, што ён і хаваўся ад паліцыі. Я ўкрадкам насіла хлеб і саланіну ў кусты каля могілак. Клала і бегла назад. З Юсіпам і іншыя прыходзілі і бралі той хлеб. Брат Юсіп справядлівасці хацеў, казаў: нашы прыдуць і тады будзе добра.

Раздзел сёмы: Вайна.

— Заўсёды было цяжка, але ў вайну то і гаварыць не хочацца. У гэту вайну згарэла наша хата. Палавіна Відава згарэла. Гэту ўжо хату сваю я сама паставіла.

Раздзел восьмы: Годная вернасць.

— Мой немак быў старэйшы за мяне на 10 гадоў. Калі захварэў, я даглядала, хадзіла каля

(Працяг на стар. 6)

ЦІ ВЫ ЎЖО З'ЯЎЛЯЕЦЕСЯ ПАДПІСЧЫКАМ „НІВЫ“?

Новыя вершы

# КАСІЛКА

Не чую ў Моры на світанні,
Як за тых колішніх гадоў,
На панадворках кос кляпання,
Пяяння кос і малаткоў.

Не бачу ўжо касцоў-асілкаў,
Што так валодалі касой...
Селі сяляне на касілкі,
І брат сеў на касілку мой.

Знікла чароўнасць сенакосу,
Настаў рамантыцы канец.
Разам з сялян гаротным лёсам
Ідзе ў нябыт з касой касец.

Не чую кос на лузе звону,
Прыходзіць тэхніка да хат.
Ужо, як гэты серп зублёны,
Каса — музейны экспанат.

**Віктар Швед**

(Працяг са стар. 2)

## НА МЯЖЫ

лоны рыфмы і рытму. Слухач устаў другі раз і спытаў, для каго паэт піша. На гэта паэт горда заявіў:

— Для сябе!

Пасля гэтага слухач устаў трэці раз і сказаў:

— Дык навошта ты да нас прыйшоў?

Публіка грымнула смехам і ўсе спакойна разышліся дамоў. На шчасце, паэт не меў магчымасці паслаць нас у каменяломні, бо не меў сілы Нерона.

**Алесь Барскі**

(Працяг са стар. 2)

## ЗАПРАШЭННЕ НА ПРАЦУ

вынікае, што магчымасці адміністрацыі ў гэтай галіне зараз вельмі абмежаваныя, але яны ёсць. У распараджэнні аддзелаў працы знаходзіцца **фонд прафесіянальнай актывізацыі**, вядомы **ФАЗ**, на які так зараз наракаюць прадпрыемствы, бо ён павялічваецца прапарцыянальна да ўзросту фондаў, выкарыстаных на зарплату для рабочых на прадпрыемствах. Гэтым **ФАЗам** маглі б пакарыстацца і начальнікі гмін дзеля прывучэння маладых людзей для выконвання найбольш дэфіцытных паслуг у вёсках і пасёлках. Фонд прафесіянальнай актывізацыі толькі ў нашым ваяводстве складае ўжо даволі вялікі фінансавы рэзерв, гэта многія мільёны злотых.

— На жаль, — адзначае загадчык аддзела працы Ваяводскага ўпраўлення ў Беластоку, — дагэтуль практычна аніводзін начальнік гміны не праявіў зацікаўлення гэтай крыніцай фінансавання прафесіянальна-асветнай дзейнасці на сваёй тэрыторыі. Адно толькі дапамагаем мы зараз будаваць новую сучасную сялібу для прадпрыемства па прафесіянальнаму ўдасканальванню кадраў — ЗДЗ.

Што ж, паважаныя начальнікі, варта скарыстаць з гэтай грашовай крыніцы.

**Віктар Рудчык**

З маёй званіцы

# ЦЯПЕР СМАКУЕ

Жыла-была згодная шлюбная пара: Жэня і Жора. Абое адукаваныя. Было ў іх чацвёра прыгожых дзетак. Жэня за сям'ёю свету не бачыла. Асабліва дбала пра трыбух мужа. Былі гэта гады, калі ў магазінах хапала мяснога. А Жора вельмі любіў вэнджаную шынку.

Аднойчы Жэня прыбегла да сяброўкі і не можа вымавіць ні слаўца, толькі трымаецца за сэрца, каб не выскачыла і цяжка дыхае.

— Што здарылася? — пытае сяброўка. А Жэня толькі сапе і прагна глытае паветра. Урэшце прамовіла:

— Ратуй!

— Жэня, што з табою?

— Бяда! Сёння Жора вяртаецца з камандзіроўкі, а ў мяне няма вэнджанай шынкі.

Сяброўка засмяялася з палёгкай.

— Ты чаго смяешся?! — накінулася на яе Жэня. — Маеш, дык пазыч! Або хоць не смейся. Табе добра, твой і каўбасы напэцца, а мой галодны будзе.

— Няўжо ў цябе нічога няма ў халадзільніку?

— Халадзільнік поўны: студзіна, гуляш, каўбаса розная, масла, сыр. Але няма вэнджанай шынкі!

— А ты свайму Жоры-абжоры навары заціркі з малаком, калі ён гуляшу не хоча, — раіць сяброўка.

— Ой, што ты, — пярэчыць Жэня, — ён на малочны суп глядзець не можа.

— Ну, тады купі яму ракаў, жабіных клешняў і смаж на маржовым тлушчы, — іранізуе сяброўка, — а ад мяне адчапіся, бо я сапраўды шынкі не маю.

— Ой, Божа, што ж цяпер будзе?! — ломіць рукі Жэня і прэ за дзверы.

Праз некалькі дзён сустрэліся сяброўкі.

— Ну, як было, чым накарміла Жору?

— На шчасце, зусім не хацеў вячэраць. Толькі адлупцаваў мяне і лёг спаць.

— Як гэта адлупцаваў? За што?

— Ат, за што, за што. Спытала, дзе парваў паліто.

— Цяпер трэба латаць?

— Што ты, купім яму новае, а ягонае сабе перашыю, а то бачыш, у якім хаджу.

Прайшло многа гадоў. Жэня і Жора даўно развяліся. Аднойчы прыйшоў Жора да Жэні, каб пабачыцца з дзецьмі. А тая, па старой звычцы, спытала, ці хоча ён есці.

— Не, — адказаў Жора, — наеўся заціркі з малаком.

І сам зварыў, бо жонка ў камандзіроўцы.

**Васіль Петручук**

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Аддай дочку ды яшчэ піва бочку.

Ад добрай маткі не бегаюць з хаткі.

Ад дрэннага семені не чакай добрага племені.

Адной маткі дзеткі, ды не роўныя.



На роднай зямлі. Брама ў Супрасльскі палац архімандрытаў. Далей — рэстаўраваная былая карчма з XVIII ст.
Фота М. Гайдука.




## ГОСТІНА НІМІЛА
(сямейная)

Брат сэстру частуе — братовая злуе.*)
— А моя ты міла, ні поглядай скрыва,
бо моеї сэстронцы гостіна німіла.
Завеў брат сэстронку за крутые горы:
— Ні бывай, сэстронко, у гостіні ніколі,
Завеў брат сэстронку, дэ біелы бэрозы:
— Еду од братішка ні п'яна — тверэза.

*) Няпарныя радкі паўтараюцца.

*Ад Вольгі Нікановіч, 1889 года нараджэння, вёска Макаўка гм. Нарва, запісаў у верасні 1983 года М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.*

кі, Янова і Ляхі на стыку трох гмін — Нарвы, Бельска і Чыжоў, — базавала група партызанскага атрада імя Дзяржынскага, брыгады „У імя Радзімы", пад камандаваннем старшага лейтэнанта Грыгорыя Коўшынава. Гэтая група атрымлівала пераважна з Кожына прадукты харчавання, інфармацыі, свежыя нямецкія газеты на беларускай мове, лякарствы, нарэдка сабраную жыхарамі зброю. У гэтай групе партызаніла шэсць жыхароў Кожына. Немцы дадумваліся, што партызаны забяспечваюцца ў Кожыне і Ступніках, але, дзякуючы добрай канспірацыі, доказаў на гэта не мелі.

У чэрвені 1942 года немцы арыштавалі Алімпіяду і Андрэя Карчэўскіх, бо іх старэйшы сын Іван не паехаў на прымусовыя работы ў Нямеччыну. Хату Карчэўскіх немцы падпалілі, а ўсіх іншых членаў сям'і, выгнаўшы спачатку за вёску, цкавалі сабакамі, а потым расстралялі ў Пілікаўскім лесе каля Бельска.

Даходзілі да жыхароў чуткі, што немцы збіраюцца спаліць вёску. Удалося тады падкупіць немцаў настолькі, што тыя загадалі вёску перанесці ў іншае месца — аднесці ад лесу на 3 км — і пабудаваць паміж Зубавам і Пілікамі, а на старым месцы ўсё разбурыць. Солтысы суседніх вёсак атрымалі загад вызначыць фуры і людзей на шарварак — разбіраць і перавозіць будынкі, а будавацца кожны павінен быў уласнымі сіламі. Ад гэтага моманту назва вёскі не існавала.

Перакінутыя на голае месца людзі ўзяліся ставіць спачатку клуні, каб мець куды складаць збожжа, потым хлявы, а хаты — на астатак. І ўсё гэта дзеялася ў час жніва. Сем'і, нярэдка з малымі дзецьмі, начавалі ў ямах, прыкрытых дошкамі і саломай. А будаваліся правізорна, каб адразу ж пасля вызвалення магчы перанесці гаспадарку на старое месца.

І далей памагалі партызанам, хоць самім было нязносна цяжка. Вялікім клопатам была вада. Уся вёска карысталася вадою толькі з двух калодзежаў, таму вады для ўсіх не хапала. Даводзілася прывозіць з суседніх вёсак для піцця, а жывёлу паілі ў равах і адстойніках. Усіх страшэнна мучылі вошы, клапы, блохі, а ратавацца ад іх не было як і не было чым. 60 працэнтаў жыхароў хварэла на каросту. Не вытрымалі тады і памерлі ад роспачы ў маладым узросце Аляксей Якімюк і Агата Шаховіч, а некалькі чалавек тады цяжка захварэла і памерлі некалькімі гадамі пазней. Сярод іх былі Гаўрыла Купрыяновіч, Анна Трафімюк, Францішак Хілімонюк, Яўстафій Карчэўскі і Дзмітро Гадомскі.

## ПАДВОЙНЫ ЖАЛЬ

18 ліпеня 1944 года (у апошнія дні перад вызваленнем) у Ляхах, гм. Нарва, на хутары Івана Арэхаўскага частка партызан прыняла няроўны бой з нямецкімі танкамі і бронемашынай. 8 партызан тады загінула

(Працяг на стар. 6)

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

Studia nad gwarami Białostocczyzny. Morfologia i słownictwo. Praca zioro-wa pod red. E. Smułkowej i I. Maryniakowej. Praca Białostockiego Towarzystwa Naukowego nr 27. Komisja językoznawcza. PWN, Warszawa 1984, ss. 222. Кніжка, якая зацікавіць не толькі мовазнаўцаў. У ёй кранаюцца тэмы:

1) Kowalska A.: Geograficzne i funkcjonalne zróżnicowanie formacji z sufiksem -ek w gwarach mazowiecko--podlaskich, s. 9—24.

2) Łapicz Cz.: Ze studiów nad słownictwem geograficznym ruskich gwar Białostocczyzny. Terminologia wegetatywna z gniazd semantycznych: „las" — „bór" — „gaj", s. 25—42.

3) Sawicka I.: Niektóre sposoby wyrażania nieokreśloności w gwarach białoruskich Białostocczyzny, s. 43—52.

4) Pietruczuk J.: Fleksja gwary wsi Kuraszewo koło Hajnówki, s. 53—66.

5) Smułkowa E.: Uwagi do metody badań nad leksyką gwarową pogranicza językowego, s. 67—72.

6) Turonek Z.: Struktura leksykalna białoruskiej gwary wsi Ruszczany w aspekcie zapożyczeń z języka polskiego, s. 73—90.

7) Maryniakowa I.: Wpływ języka polskiego na system przyimkowy gwary starowierców mieszkających w Polsce, s. 91—102.

8) Grek-Pabisowa I.: Uwagi o *sam* i *s'amyj* w gwarze starowierców w Polsce, s. 103—112.

9) Jancza M.: Wpływy słowiańskie w języku tekstów folklorystycznych ze wsi litewskich województwa suwalskiego, s. 113—122.

10) Zdancewicz T.: Nazwy terenowe i miejscowe z litewskimi apelatywami geograficznymi *balá, brastà, raistas, lankà, pieva* na Suwalszczyźnie, s. 123—178.

11) Smoczyński W.: Zapożyczenia słowiańskie w litewskiej gwarze puńskiej, s. 179—222.

P. C.

(Працяг са стар 3)

### ДАМА З КОЦІКАМ

яго. Тры гады як памёр. Пражыла з ім 67 гадоў і шмат гора.

Раздзел дзевяты: Цяпер.

— Зямлю здала дзяржаве. Там цяпер машынамі ўсё робяць. Я не магу ўжо працаваць. Ногі, о бачыце, баляць. Атрымліваю рэнту. А што маладая і харошая выглядаю — гэта ад таго, што не мела дзяцей. Нікога не маю. Адна засталася. Прыходзяць, памагаюць добрыя людзі, таму чыста і парадак у хаце і на панадворку. Я ім хату гэту запісала за тое. Гуску і коціка трымаю, каб было да каго загаварыць.

Раздзел дзесяты: Пажаданні.

— Дай Божа, каб мне ўмерці за гэтых нашых уладаў, каб хоць ніякіх зменаў, каб нашы ўлады мяне пахавалі. Жыву цяпер добра і прызнаюся — яшчэ хочацца пажыць.

**Вера Леўчук**

Фота Я. Чэрнякевіч

(Працяг са стар. 4)

### ДОЛЯ МІХАСЯ

і цяпер) быў звычай, што дзяўчына, якая канчала сельскагаспадарчую школу, ішла на практыку да гаспадара. Калі б у нас у весці падобную практыку, можа, не адна абсальвентка за час стажу палюбіла б працу на гаспадарцы, а калі трапіла б да маладога гаспадара, то, можа, адным махам палюбіла б і гаспадара. І тады пытанне, адкуль узяць жонку для маладога вясковага гаспадара, было б хоць часткова вырашана.

**Дзед Кастусь**



Бельскі краязнаўчы музей. Кросны з ваколіц Бранска з затканай насцілкай „лён на лёне" ў традыцыйны мясцовы ўзор „агурочкі".

Фота М. Гайдука.




* * *

Каб пасадзіць дрэва,
Трэба мець рукі,
Прыдатныя да рыдлёўкі
І чулыя да маладога парастка,
Трэба быць закаханым
у жыццё,
У дзіцячы смех, забаўкі, гульні
І чуць спеў птушак,
Якіх, можа, ты і не ўбачыш...
І зусім нічога гэтага не трэба,
Каб ссекчы дрэва.

**Максім Танк**

Кніжныя навіны

## Trzecia pora

Такі загаловак новай кніжкі Сакрата Яновіча на польскай мове, якую днямі выдала Krajowa Agencja Wydawnicza.

Увайшлі ў яе пераклады малых празаічных формаў, якія характэрныя нашаму аўтару і ў якіх ён выглядае найлепш.

Выбраў творы і напісаў да іх уступнае слова вядомы беластоцкі крытык Вальдэмар Смашч. Графічна аформіў кніжку лодзінскі мастак і наш зямляк Мікалай Давідзюк.

Кніжка выдадзена 7000-ным тыражом, 233 старонкі, цана 130 зл. (рл)

(Працяг са стар. 5)

## КОЖЫНА — ПАРТЫЗАНСКАЯ ВЁСКА

(пяць савецкіх грамадзян і трое мясцовых) разам з Г. Коўшынавым.

У 50-ыя гады з СССР прыязджала маці Грыгорыя Коўшынава. Яна выказала падвойны жаль. Плакала яна па страчаным сыне, але і вельмі крыўдна ёй было, што на месцы яго смерці не засталося ніякага следу. Маці набрала ў хустачку зямлі з месца гібелі сына і з тым паехала.

У 60-ыя гады на гэтае ж месца прыязджала жонка іншага загінуўшага тут партызана. І тое ж самае сказала і зрабіла. Магчыма, што і радня іншых загінуўшых прыедзе. А нам, жыхарам Кожына, якія памятаюць тыя страшныя часы, крыўдна за тых загінуўшых змагароў і мучанікаў. Сорамна нам перад госцьмі з СССР. Вельмі мы б хацелі, каб гераізм загінуўшых застаўся ў памяці будучых пакаленняў.

Я звяртаюся да былых партызан гэтай групы і жыхароў вёсак Кожына, Ступнікі, Козлікі, Янова, Гародчына, Градочна, Ляхі, Гукавічы і Зубава, можа, хто памятае прозвішчы загінуўшых у Ляхах савецкіх партызан, якіх яшчэ да гэтага часу не ўдалося ўстанавіць. Вядома ўжо, што былі сярод іх камандзір Грыгорый Коўшынаў, Валянцін Бандарэнка і Васілій Арлоў, а невядомы прозвішчы Уладзіміра і Аляксандра. Аб мясцовых, там загінуўшых, усё вядома.

Усе весткі вельмі прашу дасылаць на мой адрас:

**Уладзімір Купрыяновіч,**
15-522 Беласток 5, кал. Засцянкі
вул. Дольна 7.

ПАРТЫЗАНСКІЯ СЦЕЖКІ

## ПРОБА СТОЙКАСЦІ

Арыштавалі іх шасцярых. Даставілі пад канвоем у Бераставіцу, дзе на станцыі памяшчаўся паліцэйскі ўчастак.

— Здарылася гэта пад восень 1938 года, — успамінае Дзмітрый Карповіч, а мне падумалася, што ён бадай памыляецца.

— Ці вы, выпадкова, не памыляецеся? — спытаў я яго ўголас. — Пад восень 1938 года ані Камуністычная партыя Заходняй Беларусі, ані Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі ўжо фармальна не існавалі. У жніўні 1938 года Выканаўчы камітэт Камуністычнага інтэрнацыянала, на аснове фальшывых абвінавачанняў, прыняў рашэнне аб роспуску Камуністычнай партыі Польшчы і яе аўтаномных адзінак: КПЗБ і КПЗУ, а таксама і маладзёжных саюзаў, якія знаходзіліся пад уплывам і палітычным кіраўніцтвам гэтых партый.

— Цяпер і я ўсё тое ведаю, аб чым вы гаворыце, — сцвярджае Дзмітрый Карповіч. — Але тады, у 1938 годзе, быў я ледзь 19-гадовым, малаадукаваным вясковым хлапчуком, які занадта не разбіраўся ў складаных праблемах сусветнай палітыкі. Аб самім існаванні Камінтэрна і аб яго рашэннях мелі мы даволі цьмянае паняцце. І, незалежна ад роспуску партыі, я і мае сябры надалей прадаўжалі сваю падпольную дзейнасць. Аб далёкім свеце ведалі мы столькі, колькі вестак з гэтага свету даходзіла да нас цераз радыё, часам траплялі ў рукі нейкія газеты — агульнадаступныя і камуністычныя, падпольныя, якія тайком перадаваліся з рук у рукі...

— Вы ўжо гаварылі...

— Толькі на чытанне ўсяго гэтага не хапала часу, — прадаўжаў Д. Карповіч. — Бацька вырашыў, што я ўжо дастаткова змужнеў, бо паспеў выгнацца амаль на два метры ўвысь, і абсталяваў мяне на працу ў лесе. На работу хадзілі мы разам з братам Янкам, а калі забралі яго ў салдаты, значыць у Войска Польскае, спадарожнічаў мне бацька або малодшы брат Валодзя. Выходзілі мы з дому надосвітку, а з лесу вярталіся ўжо ўпоцемкі. Электрычнасці людзі ў нас тады яшчэ не ведалі. Адна газоўка служыла нам, маме і сёстрам, якія пралі кудзелю. Ды пасля цэладзённай, знясільваючай працы на марозе і снезе вышэй каленяў чалавек марыў толькі аб гарачым крупніку і цёплым прыпечку, бо ведаў, што надосвітку зноў трэба адпраўляцца ў лес... На сяброўскія зборы, на маладзёжныя гульні, на палітычную дзейнасць аставаліся нядзелі і святочныя дні. Ну і ў лесе, у час кароткіх перапынкаў на перакур ці на перакуску часам знаходзілася нагода, каб нейкім славечкам перакінуцца з сябрам ды самому штосьці расказаць і ад іншых пачуць дзе штосьці новага здарылася на свеце.

Нельга сказаць, што ў Грыбаўцах, у роднай вёсцы Дзмітрыя Карповіча, усе сяляне падтрымоўвалі камуністаў.

— Нас было чацвёра, — кажа

# „ВАСІЛЁЧКІ"—КВЕТКІ НАШЫ

(Працяг са стар. 1)

ва сардэчна, запрошаны на юбілей Народны ансамбль песні і танца імя Агінскага з горада Смаргоні, што ў БССР, а таксама сакратара тамашняга райкома КПБ Валянціну Картановіч і кіраўніка аддзела культуры райсавета Софію Лазар.

А пасля пачалося ўручэнне ўзнагарод. І так, па прапанове ГП БГКТ Ваяводская рада нарадовая прызнала калектыву „Васілёчкі" залаты значок „Заслужаны для Беласточчыны", Рада Дзяржавы ПНР узнагародзіла Сяргея Лукашука Залатым Крыжам Заслугі, Ніна Нікіцюк атрымала Сярэбраны значок „Заслужаны для Беласточчыны". Уручыў іх старшыня гарадской рады нарадовай у Бельску Дзімітр Ігнацюк.

Міністр культуры і мастацтва значком „Заслужаны дзеяч культуры" ўзнагародзіў наступных членаў калектыву: Уладзіміра Раеўскага, Васіля Антыпюка, Ніну Кручкоўскую і Ананія Ясюка. Значкі ўручыў намеснік дырэктара аддзела культуры і мастацтва Ваяводскага ўпраўлення Анджэй Дырдала. Ён таксама ўручыў фінансавыя ўзнагароды ваяводы ў суме 50 тыс. зл. і фінансавыя ўзнагароды дырэктара аддзела культуры і мастацтва ВУ наступным асобам: Сяргею Лукашуку, Васілю Антыпюку, Веры Раеўскай і Еўдакіі Навакоўскай.

Галоўнае праўленне ТППР узнагародзіла „Васілёчкі" „Калектыўным ганаровым значком ТППР", узнагародзіла яно таксама Залатым значком ТППР Нонну Кожан, Веслава Лаўрыновіча, Валянціну Лукашук, Вадзіма Вашчука, Яўгенію Коршак, Галену Пашкоўскую, Паўла Лемеша, Валянціну Вашчук, Аляксандра Краўчука і Анну Бжазоўскую. Узнагароды ўручалі кіраўнік аддзела культуры ГП ТППР Пётр Пачыкоўскі і сакратар ваяводскага праўлення ТППР Здзіслава Огжэбач.

Гарадская рада нарадовая Бельска ўзнагародзіла калектыў сумай 700 тысяч злотых, Галоўнае праўленне БГКТ прызнала 250 тыс. зл., а дырэктар Ваяводскага дома культуры Казімеж Дэркоўскі — 15 тыс. зл.

Начальнік горада Бельска Ян Садоўскі 11 асобам прызнаў фінансавыя ўзнагароды, а дырэктар Бельскага дома культуры Сяргей Лукашук грашовыя ўзнагароды прызнаў 26 удзельнікам калектыву.



Сяргей Лукашук ужо 15 год працуе з „Васілёчкамі".

Інспектар Асветы і выхавання Базылі Нядзведскі ўручыў грашовую ўзнагароду харыстцы-настаўніцы Валянціне Мароз.

Лісты падзякі калектыву ўручылі начальнік горада Ян Садоўскі і старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі, які таксама выступіў з прамовай.

Усе члены калектыву атрымалі лісты падзякі ад старшыні МРН і начальніка горада Бельска.

З пажаданнямі „Васілёчкам" выступалі: прадстаўнікі Народнага ансамбля песні і танца імя Агінскага са Смаргоні, ад імя сакратарыята ВК ПАРП Лявонціюш Парафінюк, сакратар гарадскога камітэта партыі ў Бельску Пётр Кудзюк, дырэктар Гайнаўскага дома культуры Мікалай Бушко, вучні беларускага ліцэя, пачатковай школы № 3. Ад харавога калектыву „Падляшскія кукулкі" з Бельска — Мікалай Турковіч, ад імя харавога калектыву з Гарадка — Сцяпан Копа, ад харавога калектыву з Кнарыд — Міхась Артышэвіч і іншыя. Шмат прыйшло таксама віншавальных тэлеграмаў з розных мясцовасцей.

Гэта было вялікае і ўрачыстае свята „Вісалёчкаў", якія ўступілі ў трэцяе дзесяцігоддзе дзейнасці. Перад імі — 25-годдзе і наступныя юбілеі.

Пасля кароткага перапынку выйшлі на сцэну госці са Смаргоні, якія цудоўна спявалі і танцавалі. Прысутныя захапляліся іх мастацтвам і іх багатымі, прыгожымі народнымі касцюмамі.

А пасля канцэрта гэтага ансамбля адбылося вялікае сумольнае спатканне гасцей з калектывам „Васілёчкі", падчас якога выступалі многія з прамовамі і пажаданнямі.

**Міхась Хмялеўскі**
Фота Е. Хаманюка

---

Д. Карповіч, — і так усе мы трымаліся разам аж да вайны.

Гэта ж тут, у гэтых старонках, між **Грыбаўцамі** і **Грыбоўвічынай**, дзейнічаў у той час славуты „прарок" **Ілья Грыбаўскі,** за якім ішлі цэлыя натоўпы людзей, гатовыя аддаць яму сваю маёмасць і сваё жыццё за веру і праўду, за новы „Ерусалім", за спасенне душы сваёй, калі наступіць канец свету, які прадвяшчаў гэты „прарок", будуючы царкву на ўзгорку за Гуранамі.

І ў Грыбаўцах моладзь раздзялілася на дзве групы.

— Нам хацелася, — кажа Міцька Карповіч, — каб як мага найбольш маладых аднавяскоўцаў сябравала з намі. Манілі мы іх да сябе перш за ўсё сваім радыёпрыёмнікам. Па радыё, асабліва з Масквы, перадаваліся прыгожыя песні. Мы іх запісвалі і развучвалі, а пасля і самі спявалі на вячорках, у час вясковых гульняў, на фэстах або і звычайна, калі збіраліся на пасядушкі на прыхатніх лавачках.

Круг іх прыхільнікаў такім чынам, сапраўды, пашырыўся. Знайшліся, аднак, і заўзятыя ворагі.

— Пагарачыўшыся, „пашклілі" мы вокны гаспадару, у якога найчасцей збіраліся нашы ідэйныя ворагі. Шкло паляцела, мы ўцяклі, нікога з нас ніхто за рукаў не злавіў, але ў вёсцы ўсе добра ведалі, чыя гэта была работа. Ведаў гэта і гаспадар хаты ды ў злосці напер на паліцыю. Наплёў сем вёрст да нябёс, аб чым ведаў і чаго не ведаў, а толькі яму здавалася. Аб гэтым можна было меркаваць па пытаннях на допытах у паліцыі.

Абвінавачвалі іх у прыналежнасці да загавору пад назвай *„Камуністычная партыя Заходняй Беларусі"*, мэтай якога з'яўляецца падрыхтоўка антыдзяржаўнага перавароту і пакушэнне на цэласнасць тэрыторыі Польскай дзяржавы, а затым абвінавачвалі іх яшчэ і ў шпіянажы на карысць суседняй дзяржавы.

Міцьку аж мурашкі забегалі па шкуры, калі пачуў і зразумеў, якія „злачынствы" прыпісвае яму паліцыя. Рашыў, аднак, стойка адмаўляцца ад усіх закідаў.

— Да нічога не прызнавайцеся! — шопатам пераконваў сваіх сяброў, калі здарылася дзеля гэтага нагода. — Арыштавалі нас аж шасцярых. Значыць, паліцыя не ведае, хто з нас у камсамоле і колькі членаў налічвае наша камсамольская ячэйка.

Гэта было слушнае накіраванне, але рэалізаваць яго давялося нялёгка. Паліцаі, не маючы наяўных улікаў, рашылі дабіцца іх старым паліцэйскім метадам, — знуткаваннямі. Пайшлі ў рух дубінкі. Звязаных „у кій", перакульвалі ўверх нагамі і вешалі, быццам бараноў, між двума сталамі, галавой да падлогі і лупцавалі па пятках. Боль пачынаўся памалу, але нарастаў да такой ступені, што галава лопала ад прыліву крыві. Нават шалёны крык не перамагаў гэтага болю. Цераз закрываўленыя вочы Міцька ледзь ужо бачыў пунсовы ад злосці твар паліцая, які безупынку паўтараў адны і тыя ж пытанні:

— Хто прымаў цябе ў Камсамол? Хто дастаўляў партыйную літаратуру? Хто ў вас сакратар партыйнай ячэйкі? Дзе збіраліся на сходы? Якія звесткі аб войску і дзяржаўных установах перадаваў ты сваім сувязным? Дзе, у каго слухалі маскоўскае радыё? У якой кампаніі? Якія песні развучвалі? Хто заахвочваў, каб выбіць вокны? Адкуль вы бралі падпольныя лістоўкі?

І так цэлы дзень, а пасля вечар і ноч. Не дабіўшыся нічога, адпусцілі іх дамоў. Хлопцы сапраўды прыціхлі. Міцька, адхварэўшы пабойку ў арышце, разам з братам зноў адправіўся ў лес на заробак.

Неўзабаве настаў трывожны 1939 год. Старэйшага брата паўторна забралі ў армію і след яго надоўга загінуў. Толькі намнога пазней яны неяк даведаліся, што іх Янка знаходзіцца ў нямецкім палоне.

Савецкую ўладу ў Грыбаўцах, як і па ўсёй Заходняй Беларусі, прывіталі людзі з вялікай палёгкай, як доўгачаканага і пажаданага госця. Міцька Карповіч абсталяваўся на працу на станцыі ў Валілах. Стаў камендантам ахоўнай стражы на збожжавым складзе.

**Віктар Рудчык**




## НА РАДЖДАСТВО

Была нядзеля, мароз трашчаў.
З марозам ветрык йшоў пры
боку,
А я да поезда спяшаўся,
Меў ўжо білет да Беластока.

На свята еxаў, на Падляшша,
Каб на Куццю быць ў роднай
хаці
І пры сталe, накрытым сенам,
З сям'ёю разам засядаці.

Цямнела ўжо, гарэлі зоры
І поўны месяц нат ўзышоў,
Сядалі людзі да вячэры,
А я да пэкаэса йшоў.

Шчыпаў мароз за нос, за вушы,
Зусім як дзікі які звер,
Пад кажух улезці не меў сілы,
Са злосці пабяліў каўнер.

Дома было ўжо ўсё гатова,
Накрыты сенам стол стаяў,
І белы абрусок пасланы,
На ім дванаццаць ўсіх патраў.

А за сталом, пад абразамі,
Ўтуліўшысь ў цёпленькі куток,
Стаяў — а як жа,
традыцыйна —
З каласоў звязаны „дзядок".

Ў царкве ў поўнач звон
раздаўся,
Абвесціў свята, як штогод,
Дарогі, сцежкі прабудзіліcь,
Па іх ішоў ў царкву народ.

Рана за стол мы зноў заселі
Хрыстова Раждэаство вітаць.
Тут малышы прыйшлі
з звяздою
І хорам сталі ўсе спяваць.

І за сталом адразу сціхлі:
Кожны паслухаці хацеў
Песні пра Раджджаство
Хрыстова
І як той анёл праляцеў.

Якгэ крыху традыцый нашых
Трымаеш, родны краю мой!
Улетку, можа, дрэмлюць хаты,
Зато не спяць зусім зімой.

**У. Данілюк**

## Куток практычных ведаў

### КАФЕЙНАЯ ГУШЧА

З дапамогай кафейнай гушчы мыюць бутэлькі з-пад алею. Спачатку ўсыпаюць туды некалькі чайных лыжачак кафейнай гушчы, наліваюць крыху вады і, устрасаючы, мыюць бутэльку. Затым напаўняюць бутэльку цёплай вадой і пакідаюць на дзве гадзіны.

Кафейная гушча, узятая на мокрую анучку, добра ачышчае каструлю. Тампон з шарсцяной або фланелевай анучкі, напоўнены злёгку вільготнай кафейнай гушчай, пратварае пацямнелую скуру сумак, партфеляў, туфляў у блiскучую.

### ЦЫБУЛЯ

Калі прыкіпіцца мясны булён з чыстымі цыбульнымі лупінамі, ён набывае прыгожы залацісты колер. Лустачкі цыбулі ў халадзільніку хутка знішчаць непрыемны пах.

Змачыўшы сокам рэпчатай цыбулі падпаліны ад праса на рэчах, іх праз некалькі гадзін мыюць. Сляды падпалін знікнуць.

## ТАЯМНІЦЫ НАВОКАЛ НАС

Шчыра кажучы, гэты артыкул я не збіраўся пісаць у бягучым годзе. Але ж сустрэў сябра са школьнай парты. Завязалася размова пра „таямніцы" ў „Ніве".

— Пра што раскажаш чытачам? — пытаецца калега.

— Цяпер зіма, — кажу, — пра зёлкі пісаць няёмка. Працую над артыкулам пра мёд.

— Во, як жа ж добра! — пахваліў мой размоўца. — Ведаеш, майму дзіцяці дактары рэкамендавалі пчалінае малако. Я нават і не ведаю, што гэта такое. Можа, ты нешта пра яго напішаш?

Ну, як жа ж не пасобіць чалавеку ў бядзе? Таму і пішу ўжо трэці „пчаліны" артыкул. Хоць, так сказаць, раблю гэта на заказ аднаго чытача, аднак думаю, што і іншым ён можа быць цікавым.

Вядома, што апрача мёду пчолы-працаўніцы вырабляюць надта ж пажыўныя рэчывы, якімі яны выкормліваюць лічынку будучай маткі. Гэтае рэчыва і атрымала назву матачнага малака. Лічынкі будучай маткі даслоўна плаваюць у матачным малацэ. У звычайных сотавых ячэйках, з якіх выводзяцца рабочыя пчолы і трутні, знаходзіцца таксама высокапажыўное рэчыва, але ў значна меншай колькасці (у 100 разоў меней, чым у матачных) і крыху іншага складу. Якраз гэтыя высокапажыўныя рэчывы і называюць пчаліным малаком.

Гэтае малако пчолы нарыхтоўваюць з пяргі (pierzgi). Добра, але што ж гэта такое — пярга? Думаю я, што вы нараз назіралі, як пчала сядае на кветку. Сядзе і адразу цягнецца да нектару, які знаходзіцца на дне кветкі. Пчала хабатком высмоктвае нектар з нектарніка і напаўняе ім свой нектарны страўнічак. Невялікую частачку праглынутага нектару яна скарыстоўвае для свайго харчавання, рэшту ж нясе ў вулей і перадае яго пчале-прыймальніцы. Але калі пчала сядзе на кветку і імкнецца да нектару, то страсае пылок. Зярняткі пылку маленькія, з няроўнай і часта ліпкучай паверхняй. Яны прыліпаюць да цела пчалы. Яна, напіўшыся нектару, выходзіць на пялёстак кветкі і збірае са свайго цела пылок, увільгатняе яго нектарам, змешвае са сваёй слінай і складвае ў спецыяльных заглыбленнях задніх ног (кошычках). Там яна пераносіць пылок у вулей, складвае яго ў сотавыя ячэйкі і ўтрамбоўвае. За адзін раз пчала прыносіць у вулей каля 20 міліграмаў пылку. Кожную ячэйку пчолы напаўняюць на дзве трэці, а зверху заліваюць мёдам. Пазбаўлены доступу паветра пылок за кошт ферментаў пчалінай сліны і мёду паддаецца ферментацыі і ператвараецца ў так званы „пчаліны хлеб" — пяргу („хлебіну"). Змены, якія адбываюцца ў пярзе, падобныя на сіласаванне раслінных пашы. Пасля ферментацыі з гэтага „пчалінага хлеба" пчолы нарыхтоўваюць пчалінае малако. Адбываецца гэта прыкладна такім жа шляхам, як пераўтварэнне нектару ў мёд.

Свежае матачнае малако — гэта жоўта-белая вадкасць падобная на смятану, кіславатая на смак. Пад уплывам матачнага малака лічынка хутка расце і развіваецца. За 6 дзён павялічвае сваю вагу ў 2700 разоў. Пчолы матачным малаком падкормліваюць таксама дарослую матку падчас складання ёю яечак. Матка складае 1500 яечак у суткі, гэта значыць, такую колькасць іх, якая ў вазе перавышае вагу маткі ў 6 разоў. Мабыць, пчалінае малако таксама прадаўжае жыццё маткі. Яна жыве 3-5 год, у той час, як рабочыя пчолы, якія не атрымліваюць малака, жывуць 1-8 месяцаў.

# ПЧАЛІНАЕ МАЛАКО

З гэтага біёлагі зрабілі вывад: пчалінае малако мае эдзіўныя ўласцівасці. Пачаліся навуковыя даследаванні яго. Першы гэтым пытаннем зацікавіўся французскі аграном Кайлас, які ў 1953 г. выдаў кнігу „Пчолы — крыніца маладосці і жыцця". Праведзеныя ад таго часу навуковыя даследаванні даказваюць, што пчалінае малако:

— дабратворна ўздзейнічае на кроў, нармалізуе ціск крыві, ліквідуе перабой у працы сэрца пасля інфаркта (завалу) сардэчнай мышцы;

— ліквідуе гіпатрофію — хваробу ў дзяцей, якая выяўляецца ў малым росце і вазе, дрэнным апетыце, бледнасці скуры, дрэнным сне, вяласці, нерухлівасці (пчалінае малако даюць у выглядзе свечак 3 разы ў дзень на працягу 7-15 дзён, дзецям ва ўзросце болей месяца — 5 міліграмаў);

— узмацняе арганізм, які вычарпаны і аслаблены перанесенымі цяжкімі хваробамі, дабратворна ўздзейнічае на людзей пажылога ўзросту;

— паляпшае стан хворых злаякасными пухлінамі (ракам).

Варта ўвагі паведамленне пра тое, што большасць даследаваных здаровых людзей зусім не рэагуе на спажыванне пчалінага малака.

Пчалінае малако як лячэбны сродак цяпер прымаецца ў таkіх формах:

1. Свежае па 10-100 міліграмаў пад язык або ва ўнутр нашча на 30 мінут або на гадзіну перад ядой;

2. Свежае з 40-працэнтным спіртам (гарэлкай) у прапорцыі 1:2. Прымаць па 5-10 кропель 3-4 разы ў дзень на паўтары гадзіны перад ядой;

3. Сумесь 250 міліграмаў пчалінага малака і 100-200 грамаў мядовага сіропу. Ужываць па адной гарбатнай лыжачцы нашча на 30 мінут перад ядой.

4. Сумесь паўграма глюкозы, 1-2 кропляў мёду і 20 міліграмаў свежага матачнага малака. пад язык. Прымаць 2-3 разы ў дзень.

Неабходна памятаць, што ў пакаёвай тэмпературы і на святле пчалінае малако жаўцее і высыхае, таму яго трэба захоўваць у тэмпературы блізкай да нуля. У такіх варунках яно не траціць сваіх уласцівасцей на працягу трох месяцаў.

У аптэках можна набыць прэпараты з пчаліным малаком, напрыклад, у СССР — „Апілак", у Югаславіі — „Вітамель" (500 грамаў мёду з 1 грамам пчалінага малака) і „Роявіт" (суспензія 0,4% пчалінага малака з дадаткам 4% кветкавага пылку і мёду).

Часам матачнае малако прадаюць на рынку. Гэта вельмі ненадзейнае месца пакупкі, але калі яна неабходная — трэба праверыць праўдзівасць пчалінага малака. Можна гэта зрабіць у кожнай хімічнай лабараторы наступным чынам: 32 міліграмы свежага пчалінага малака пакласці ў хімічную шклянку ёмістасцю каля 25 мілілітраў, дадаць 10 мілілітраў астуджанай гатаванай вады, мяшаць шклянай палачкай 5-7 мінут. Адсмактаць піпеткай 2 мілілітры атрыманага вадзянога раствору, уліць у прабірку і дадаць 1 мілілітр 20%-най сернай кіслаты (сярковага квасу). Сумесь у прабірцы змяшаць і дадаць адну кроплю 1/10 нармальнага раствору перманганца калія, які мае ружовы колер. Калі малако праўдзівае, то праз 2-4 секунды наступіць страта колеру перманганца калія.

**Б. Паскробка**






Мельхіёр Ванькові.
З цыкла „Крэсы".

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


# ЁЛКА Ў ТЫНЕВІЧАХ

21 студзеня ў вясковай невялікай школцы ў Тыневічах Вялікіх адбылася навагодняя ёлка.

Увесь школьны будынак выглядаў у той дзень па-святочнаму. Якраз толькі што скончыўся рамонт у школе. Усе пакоі і класы пахлі свежай фарбай. Чысціня і полыск на ўсім аж здзіўляючыя. Здавалася, што сам школьны будынак неяк прыхарошыўся на сустрэчу дзяцей, ёлкі і Дзеда Мароза.

Хоць школа тут толькі трохкласная, і дзеці малыя, але падрыхтаваліся яны да сваёй ёлкі вельмі сур'ёзна. Кожны клас з'явіўся на ёлку са сваёй уласнай, вельмі багатай праграмай.

Першымі выступілі наймалодшыя, дашкольнікі. Апрануўшыся ў касцюмы красналюдкаў, яны адразу пасур'ёзнелі, адчуваючы адказнасць за ўсю групу: каб хоць ніхто не памыліўся ў вершы, не сапсаваў танец. Дзеці спявалі, танцавалі, дэкламавалі вершы. Усё атрымалася цудоўна.

Потым на сцэну выйшлі першакласнікі. Яны таксама выбралі на ёлку вельмі цікавыя вершы. Перш за ўсё яны вырашылі паказаць свой спосаб на тое, каб не забывацца. Аказваецца, трэба завязаць на хустачцы вузельчыкі. Але ні ў якім разе нельга забываць, які вузельчык што абазначае, як гэта здарылася герою падрыхтаванага верша.

Найбольш багатую праграму падрыхтавалі старэйшыя вучні гэтай школы — другі і трэці клас. Колькі ж песень, цікавых вершаў і смешных сцэнак яны ведаюць! Мноства! І беларускіх, і польскіх! А на заканчэнне паказалі нават сцэнку з „Зоркі" — „Навагодняя сустрэча". Яны і прадказалі, што ідзе Дзед Мароз.

І сапраўды. Дзед Мароз прыйшоў з велізарным мяшком падарункаў. Дзед быў цёпла апрануты, бо ішоў здалёк у вялікі мароз, і вельмі змучаны, бо мяшок быў цяжкі. Але дзеці вельмі ўцешыліся, калі пазналі ў ім таго самага Дзеда Мароза, што прыходзіў да іх у мінулым годзе. І быў Дзед такі самы вясёлы, гаваркі, і падарункі даваў усім. Трэба было толькі запэўніць Дзеда Мароза, што ўсе будуць слухацца тату, маму і настаўнікаў.

Добрая была і ёлка, і Дзед Мароз, і ўсе госці. Усім было радасна і прыемна.

Шкада толькі, што навагодняя ёлка бывае толькі адзін раз у год!

**Яніна Чэрнякевіч,**
**фота аўтара.**



**Ад імя другога і трэцяга класа праграму вяла Гражына Галавачык. Ёй намагалі іншыя дзяўчаткі і хлопчыкі. На здымку — побач з ёй Мірэк Ваўрэнюк.**



**Першакласнікі вучылі, як вязаць на хустачцы вузельчыкі, каб ні аб чым не забыцца.**



**Першымі выступілі дашкольнікі-красналюдкі.**

Валянціна Байкова

# КЛЮЧ

Я спяшаўся, таму што сёння яшчэ не карміў Тарзана.

— Зараз, зараз, — у думках супакойваў я яго, устаўляючы ключ у замок. — Ты ўжо прабач, па корм для рыбак хадзіў.

Ды што гэта? Я і так, і гэтак, а ключ павярнуць не магу. Хацеў было яго выцягнуць, а ён не даецца. Я разгублена паглядзеў на дзверы. Пазваніў да суседзяў. Іх, вядома, дома не было. І тут я ўспомніў пра Цімошку. Вось хто можа памагчы! Цімошка дужы — у нашым трэцім „А“ нікому не ўдаецца яго перамагчы!

Я ганарыўся, што жыву з ім у адным доме.

Але мне не пашанцавала. Па тэлевізары паказвалі фільм. Ледзь глянуўшы ў мой бок, Цімох махнуў рукой: не перашкаджай, маўляў. Я трошкі пастаяў у яго калідоры, выслухаў спачувальныя вохканні Цімошкавай бабулі і пайшоў.

Стаю на лесвічнай пляцоўцы і думаю: калі замок не адчыняецца, можна пайсці начаваць да цёткі Аліны. Мама прасіла яе, каб прыглянула за мною пакуль мама прыедзе. Але як быць з Тарзанам?

Тут адчыняюцца дзверы і выскаквае Цімох.

— Адкуль вы з бабуляй узяліся на маю галаву?! — сказаў ён злосна. — Хутчэй паказвай, што ў цябе там!

Я падвёў яго да нашых дзвярэй. Цімошка змерыў мяне насмешлівым позіркам:

— Глядзі, як гэта робіцца!

Ён націснуў на ключ адной рукой, потым абедзвюма. Пачухаў патыліцу, наморшчыў лоб і сказаў:

— Ідзі спытай у бабулі, ці няма ў яе шчыпцаў.

Бабуля паказала мне скрынку са шчыпцамі. Я прынёс іх Цімошку, той сціснуў галоўку ключа, і... яна са звонам упала на падлогу.

— Цяпер усё! — сказаў я з сумам.

Нейкі час мы маўчалі.

— Уліп ты з гэтым ключом! — нарэшце прагаварыў Цімох. — Можа, пажарнікаў пакліваць? Яны разаб'юць акно і адчыняць дзверы ад сярэдзіны.

Я ўявіў сабе разбітае акно, сумны мамін твар і адмоўна пакруціў галавой.

— Ну, як хочаш! — кінуў Цімох. — Ужо фільм канчаецца, а я ўсё з тваім замком мучаюся. Бывай!

Ён пабег дадому, а я застаўся адзін. За дзвярыма скуголіў Тарзан. Я сеў на прыступкі. Хацелася плакаць. Раптам з вуліцы ўбегла Кацька, падобная на каляровы матылёк. Яна адкінула назад льняную касу, села побач са мной і пачала хутка расказваць, што ім сказалі абавязкова на заўтра прынесці макулатуру. Я шмыгнуў носам і расказаў ёй аб злашчасным ключы.

— Пайшлі! — сказала яна.

Мне было ўсё роўна, што рабіць, куды ісці. І толькі ў суседнім доме, апынуўшыся твар у твар з рыжым Міколкам, я зразумеў, што нельга даверыцца гэтай дзяўчынцы. Міколка павіўся ў нашым класе нядаўна. Я яго адразу неўзлюбіў. Вось і ўчора падставіў яму падножку і абазваў лапухом. Аднак Міколка, мабыць, забыў крыўду, таму што цяпер паціснуў мне руку, пазнаёміў з мамай і запрасіў глядзець тэлевізар.

— Мы не ў госці! — паясніла Каця. — Нам патрэбны твой тата. Ён жа слесар?

— Слесар! — пацвердзіў Міколка. — Але яго няма яшчэ. Сёння ён прыдзе позна. Што здарылася?

Ледзь Каця пачала апісваць мае прыгоды, як Міколка адразу ж выключыў тэлевізар і пачаў збіраць інструменты. І мы ўтраіх накіраваліся да мяне. Я чамусьці адразу супакоіўся, хоць і не ведаў, што Міколка займаецца ў канструктарскім гуртку.

Не ўстаяў замок перад Міколкам. У прыадчыненыя дзверы адразу прашмыгнуў Тарзан і з радасцю заскакаў.

А вечарам мы ласаваліся піражкамі, якія спякла Міколкава мама. Я сядзеў паміж Кацяй і Міколкам і думаў: як добра, што ў мяне зламаўся ключ! Як цудоўна, што ў мяне ёсць сапраўдныя сябры!

## Пазнаёмімся

СССР, 300045, г. Тула, ул. Пионерская, 72. Санаевой Юлии. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* * *

УССР, Донецкая обл., г. Артёмовск, ул. Полевая, дом 57а, кв. 6. Шелеповой Ларисе. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* * *

СССР, 300004, г. Тула, ул. Немцова, д. 25, кв. 12. Ивановской Ирине. Дзяўчынка вучыцца ў дзесятым класе.

* * *

СССР, 197227, г. Ленинград, пр. Испытательный, д. 6, к. 1, кв. 42 Пинюгиной Оле. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе.

* * *

СССР, 344098, г. Ростов-на-Дону, ул. Добровольского, 34/1, кв. 63. Трушниковой Марине. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* * *

СССР, 353990, Краснодарский край, г. Новороссийск, ул. Юбилейная, 18. Мартиди Тане. Дзяўчынцы 15 год.

* * *

СССР, 357441, Ставропольский край, Железноводский район, пос. Иноземцево, ул. Гагарина, д. 2, кв. 47. Дрокову Диме. Хлопчык вучыцца ў пятым класе.

* * *

СССР, 301280, Тульская обл., Киреевский район, г. Болохово, ул. Горняков, д. 17, кв. 3. Гуровой Свете. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.



## Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА“!

Нядаўна Ты была ў нашай школе ў Іванках. Мы абяцалі, што будзем пісаць Табе, як толькі добра пазнаем беларускую мову, якую мы пачалі вывучаць у гэтым годзе. Добра пазнаць яе мы яшчэ не паспелі, таму памагае нам пісаць наш настаўнік.

А пішам мы, бо хочам пахваліцца нашымі спартыўнымі дасягненнямі. У снежні і студзені ў Беластоку адбыліся ваяводскія спартыўныя спаборніцтвы па настольнаму тэнісу. У іх прымалі ўдзел і вучні нашай школы і дабіліся добрых вынікаў.

У катэгорыі дзяцей VII класаў Ірэна Пашкевіч заняла трэцяе месца і чацвертае — у камандным заліку. У катэгорыі V-VI класаў Крыся Герасімчук была першай, Эва Паплаўская — трэцяй, а Бася Герасімчук — чацвертай. Камандай мы занялі першае месца. Першае каманднае месца заваявалі і дзяўчаткі ў катэгорыі чацвертых класаў. У гэтай катэгорыі мы занялі тры першыя месцы ў ваяводстве. Першай была Бася Грынявіцкая, другой — Геня Садоўская, а трэцяй — Веся Болбат.

9 і 10 лютага пяць нашых дзяўчынак паедуць у Ломжу на міжваяводскія спаборніцтвы. Там сустрэнуцца найлепшыя спартсмены з сямі ваяводстваў. А нашыя дзяўчаткі будуць бараніць гонар нашага ваяводства.

Нашым апекуном і спартыўным трэнерам з'яўляецца настаўнік Васіль Цімафеюк.

Жадаем Табе, „Зорка“, усяго найлепшага ў новым годзе.

**Вучні 4 і 5 класаў школы ў Іванках.**

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



Які чарвячок жыве ў яблыку? Малявала І. Цыбік-Лемеш.

## Для самых маленькіх

Вольга Іпатава

### ЗІМА

Згаладнелая вавёрка
Скача ў гушчы сасняку.
Абірае, быццам пёркі,
З шышак хрумсткую луску.

У яе кладоўках пуста.
Трэба збегаць у сяло:
Надта густа, надта густа
Снегу ў лесе намяло.

А ля школы стол багаты.
Чулі ўсе ад снегіроў:
Любяць частаваць ля хатаў
Там і птушак, і звяроў.

### ЯК ЁН ЗАВЕЦЦА?

Як ён завецца,
Гэты хлапчук?
Што мыць не хоча
Ні шыі, ні рук?

Цукеркі і цацкі
Сабе ён грабе,
Нікога не любіць,
А толькі сябе.

Сяброў ён не мае.
Кніжкі — ірве.
А што не па ім —
Як бычок, зараве.

Затупае ножкамі,
Вырвецца з рук.
Ці ведаеш, як той
Завецца хлапчук?

### ЗАЙЧЫК І ГОРКА

Зайку-сына на лыжню
Вывеў тата ўпершыню.
Лыжы новыя з кары
Парабілі ўсе звяры.

Нават і Вавёркі
Спрытна ездзяць з горкі!

— Я таксама ўніз хачу,
Я на лыжах палячу!
Шуснуў вецер у вушах,
Ахапіў малога жах:
„Лыжы хуткія імчаць.
Плакаць мне ці закрычаць?
Ой, куды лыжня вядзе?
Дзе ты, мама?
Тата, дзе?“

Тут на лыжы пень набег...
І з разгону Зайка — ў снег!
Згубіў сваю шапку
І падрапаў лапку,
Вываляўся ў снезе.
І хоць лапка пячэ,
Кажа:
— З'ехаць бы яшчэ!

### ШТО МОЖНА?

Сказалі,
што нельга чапаць
мне разеткі,
У вазе вялікай —
прыгожыя кветкі.
Ля тэлевізара бегаць —
няможна.
І трэба ля шафы ісці —
асцярожна.
— Што можна? — пытаю.
На ложак — не сесці.
Талерку з буфета не ўзняць,
не панесці.
І нельга кранаць
Ні карцін, ні таршэра.
А болей нічога
Няма ў кватэры!



Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

## МІФАЛАГІЧНАЯ ГІСТОРЫЯ

— Дазволь увайсці, Гектар. Добры дзень. Гэта я, твой малодшы брат Гэлен.

— Заходзь, брат, заходзь, хоць я і вельмі спяшаюся... Але дзе твой меч, брат, твае даспехі? Трэба ж ісці бараніць Трою, пачалася вайна.

— Гектар, ты ведаеш, што багі надалі мне талент прадбачання. Гэту вайну мы прайграем. Я пераходжу на бок грэкаў, брат. Раю і табе зрабіць тое ж самае.

— Так-так...Значыць цябе трэба называць ужо не братам, а здраднікам, Гэлен?

— Усё гэта словы, Гектар, словы! Жыць застанешся, вось што галоўнае. Інакш — загінеш. І гэта мне таксама вядома.

— Прэч з дарогі, брыдота! Пляваць на тваё прадказанні. Лепш загіну, але не здраджу Троі. Прэч!

— Брат, сын бацькі Прыяма і маці маёй Гекубы, спыніся!

— Воўк табе брат, пярэварацень!..

Што было далей — вядома. Як і прадказваў Гэлен, Гектар загінуў, а Троя пала. Гэлен жа застаўся жывы і ажаніўся з удавой Гектара — Андрамахай. Кажуць, што і цяпер Гэлен матэрыяльна жыве няблага і што ён вельмі задаволены тым, што застаўся жывы.

Гэлен жывы, але людзі мінаюць яго дом. Яны нават забыліся на тое, што ёсць недзе такі Гэлен. Людзі помняць мужнага Гектара.

**Язэп Таўшчэзны**

Без слоў.

# НІЎКА

З чаго смяюцца суседзі.

СЕГОДНЯ САМООБСЛУЖИВАНИЕ.

### АРГУМЕНТ

Прыходзіць сусед да суседа ды й кажа:

— Ты ўчора, Кастусь, абяцаў мне грошы пазычыць...

— А я, выпадкова, не быў п'яны? — спытаў той.

### ПАЕННЕ

— Напаіў ты каня?

— Напаіў.

— А чаму ж у яго морда сухая?

— А ён да вады не дастаў!

### ПАРАДА

— Дай цыгарэту. Хачу кінуць курыць, ды не ведаю, з чаго пачаць.

— А я ведаю: спачатку кінь курыць чужыя...

### ЯК ДОМА

Задрыпкоўская пытае госця:

— Колькі лыжак цукру вы кладзеце ў каву?

— Дома — адну, а ў гасцях пяць, — жартаўліва адказвае госць.

— Добра, добра, чуйцеся як дома...

### ПАЦЫЕНТ

— Вы не размаўляеце ўва сне? — пытае лекар пацыента.

— Не, доктар, хоць я часценька гавару, калі іншыя спяць.

— Гэта як жа?

— Я чытаю лекцыі.

### УСЁ ЯСНА

Размаўляюць дзве суседкі.

— Мой муж звычайна закурвае толькі пасля добрага абеду.

— Разумею — адна сігарэта ў год не пашкодзіць здароўю.

Спатыкнуўся аб парог уласнай скромнасці.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Суддзя гаворыць мужу, які падаў на развод:

— Я згаджаюся на ваш развод і прысуджаю жонцы аліменты ў памеры 1200 франкаў штомесячна.

— Гэта вельмі міла з вашага боку! — адказвае муж. — А я, са свайго боку, буду пасылаць ёй часам па сто франкаў!

*

— Рэклама — вялікая сіла!

— Як вы можаце гэта даказаць?

— Вельмі проста. Калі курыца знясе яйка, яна галосна кудахча. Калі гуска знясе яйка, яна маўчыць.

— Ну і што?

— А тое, што ўсе купляюць курыныя яйкі і амаль ніхто не купляе гусіных!

*

Малады чалавек напісаў у пісьме: „Дарагая Мірэй, я цябе кахаю і хачу, каб ты выйшла за мяне замуж! Калі ты згаджаешся, адкажы мне, калі не, то нават не распячатвай канверт".

Страшная помста.

З „Весніка Задрыпоніі"

### ІСПАНСКІ БОТ

Страшнае пакаранне за дрэнную працу атрымаў майстар Шэракузаўскай абутковай фабрыкі М. Іспанскі. Калектыў брыгады і адміністрацыя абавязалі яго хадзіць у зробленых ім ботах.

### БОНТОН

Калі вам прапанавалі рыбу і вы не ведаеце, як з ёю ўправіцца пры дапамозе нажа і відкі, папрасіце ў гаспадыні крыху кашы. Яе зручна есці лыжкай.

### ПЕСЕНЬКА ПРА ЧЫЖЫКА-ПЫЖЫКА

— Чыжык-пыжык,
Чараўнік,
Ты куды дачасна знік?
На дварэ даўно зіма,
А цябе нідзе няма.
І ні следу сваёй лапкі...
Зноў застаўся я без шапкі.
Кажуць, ты на базе быў,
Што гарэлку нават піў,
Выпіў літру, а ці дзве...
На чыёй жа галаве,
Пыжык, ты цяпер сядзіш,
Куды далей паляціш?
— Палячу, палячу,
Не туды, куды хачу,
Бо даўно ўжо ледзь жывы,
Ледзь трымаецца душа, —
Не зайздросціце шпакам вы:
Без чыжа і без пыжа
Лепей, чым без галавы...

**Васіль Вітка**

— Пажарная? Ці не можаце прыехаць? Мне нудна аднаму.

# Курёзы

### БОБІ

У рымскай паліцыі верай і праўдай служыць вельмі здольны сабака Бобі. Ён нясе дзяжурства на Цэнтральным вакзале горада і, карыстаючыся сваім тонкім нюхам, дапамагае выяўляць кантрабандыстаў, якія правозяць наркотыкі. Неяк Бобі дапамог злавіць нават фальшывамаНетчыка — ён вёз у чамадане мільёны амерыканскіх долараў. Справа, відома, не ў тым, што Бобі быў надрэсіраваны на такі пікантны тавар — грашовыя знакі. Проста ў тым жа чамадане раней утрымліваліся наркотыкі і ад іх застаўся спецыфічны водар. Але ўсё роўна Бобі праславіўся сваім незвычайным талентам, бо дапамог арыштаваць яшчэ аднаго няўлоўнага члена распаўсюджанай банды, што гандлявала наркотыкамі.

### АДЧАЙНЫЯ ЗЛАДЗЕІ

Кража з'яўляецца адным са старэйшых злачынстваў. Грамадская думка шмат вынайшла мер па барацьбе з гэтым злом. І тым не менш злодзейства не скарачаецца, а наадварот, працягвае пашырацца, праходзіць своеасаблівае ўдасканаленне на ўзроўні сучаснасці. Не так даўно ў англійскім горадзе Чатэндэн яшчэ не так позна на вачах у прахожых трактар валок па вуліцы сейф, які рабаўнікі выцягнулі з мясцовага паштовага аддзялення, бо на месцы яго адчыніць не ўдалося. І толькі выпадкова адчайныя зладзеі былі злоўлены.

Смех з намі

Цяжка знайсці справу па душы, калі яна ўвесь час уцякае ў пяткі.